# ЗГОДА

ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ ШТОТЫДНЁВІК
http://www.zgoda-weekly.org

№ 29 (257) 2 — 8 жніўня 2002 г.




СПРАВАЗДАЧА

## БАЦЬКА ДОБРЫ, ЁН ДАРУЕ

АНАСТАСІЯ РАКОВІЧ

**30 ліпеня беларускі ўрад выступіў са справаздачай перад кіраўніком дзяржавы аб выкананьні прагнозу сацыяльна-эканамічнага разьвіцьця краіны за першае паўгоддзе. Вынікі ня самыя прыемныя: амаль палова прагнозных паказьнікаў праваленая.**

Напрошваюцца высновы пра тое, што Саўмін напярэдадні новых кадравых перастановак. І хоць сам Лукашэнка назваў гэткія высновы *«варожымі галасамі»*, нельга выключаць такой магчымасьці. Калі беларускі лідэр спакойна рэагуе на тыя лічбы, якія былі агучаныя прэм'ер-міністрам, то гэта зь ягонага боку сапраўднае парушэньне традыцыі. Звычайна пасьля такіх справаздачаў высокія чыноўнікі вылятаюць са сваіх фатэляў з хуткасьцю сьвятла.

Цяпер аб самой справаздачы. Па выніках паўгоддзя валавы ўнутраны прадукт вырас на 104,7% у параўнаньні з аналягічным пэрыядам мінулага году. Прадукцыі сельскай гаспадаркі выпушчана на 104,3% пры прагнозе 103-104%, што можна лічыць сапраўдным посьпехам, улічваючы стан айчыннага АПК. Інвэстыцыяў у асноўны капітал зроблена на 106,1% пры прагнозе 106-107%. Рэальныя грашовыя прыбыткі насельніцтва павысіліся на 18% пры празнозе ўсяго 5-6%.

Аб'ём розьнічнага тавараабарачэньня ў першым паўгоддзі 2002 году ўзрос на 15,3% пры прагнозе 5-6%, рэалізацыя платных паслугаў насельніцтву – на 6% (прагноз 5-6%). За шэсьць месяцаў здадзеныя ў эксплюатацыю жылыя дамы агульнай плошчай 1 мільён 387 тысяч квадратных мэтраў супраць прагнозных 1-1,2 мільёна мэтраў.

Але ўсе гэтыя подзьвігі блякнуць у параўнаньні зь іншымі лічбамі, якія сьведчаць аб пагаршэньні становішча беларускай гаспадаркі. Вытворчасьць прамысловай прадукцыі ўзрасла толькі на 104% пры прагнозе 105-106%, вытворчасьць спажывецкіх тавараў – на 104,2% супраць прагнозных 104,5-105,5%. І гэта яшчэ не настолькі страшна. У зьнешнім гандлі няўдачы больш істотныя. Аб'ём зьнешняга гандлю таварамі й паслугамі ў студзені-траўні 2002 году ў коштавым выражэньні склаў 102,2% да аналягічнага пэрыяду мінулага году, хоць прагназавалася 106,5%. Сальда засталося станоўчым – 61,7 мільёна даляраў.

Правальнай можна назваць грашова-крэдытную палітыку – сярэднямесячны рост індэксу спажывецкіх коштаў склаў 3,1%, што ўдвая больш прагнозных паказьнікаў. Фактычна за шэсьць месяцаў выкананы ўвесь гадавы плян па інфляцыі (звыш 20% пры прагнозе на ўвесь год 20-27%). Пры гэтым у часе справаздачы ўраду Аляксандар Лукашэнка запатрабаваў, каб да канца году інфляцыя не перавысіла 5%.

Яшчэ адна праблема – рост запасаў гатовай прадукцыі на складох прамысловых прадпрыемстваў. На 1 ліпеня іхны ўзровень дасягнуў 77% да сярэднямесячнага аб'ёму вытворчасьці. Іншымі словамі, прадпрыемствы на цэлыя тры тыдні могуць спакойна спыніцца й не выпускаць новую прадукцыю – усё адно прадаць яе немагчыма. Канкурэнтаздольнасьць айчынных тавараў штогод зьніжаецца, і на зьнешніх рынках яны цяпер амаль нікому не патрэбныя. Асабліва гэта заўважна ў гандлі з Расеяй. Раней мы адпраўлялі туды свае нізкаякасныя й танныя тавары, цяпер Расея вязе сваю прадукцыю да нас – лепшай якасьці й таньнейшую. Проста пакуль мы спрабавалі выкараскацца за кошт уласных сродкаў, туды прыйшлі інвэстыцыі, дзякуючы якім адбылася мадэрнізацыя вытворчасьці. Мы ж вымушаны працаваць на склады, разгрузка якіх робіцца задачай невыканальнай, нягледзячы на ўсе гнеўныя ўскрыкі кіраўніка дзяржавы.

Неканкурэнтаздольная прадукцыя й зношанасьць асноўных фондаў прадпрыемства цягнуць за сабой яшчэ адну праблему – фінансавае становішча прадпрыемстваў пагаршаецца. На 1 чэрвеня доля стратных прадпрыемстваў складала 40,9% супраць 35,6% год таму. Рэнтабэльнасьць рэалізаванай прадукцыі, тавараў і паслуг у студзені-траўні 2002 году склала 9,1%. Летась было 10%.

Зразумела, што ў прадпрыемстваў паменела ўласных сродкаў, а вось рознага кшталту запазычанасьцяў стала болей. Тут і завінавачанасьці за энэрганосьбіты, і недаплаты ў бюджэт, і банкаўскія крэдыты. Агульную крэдыторскую запазычанасьць у Беларусі ацэньваюць прыкладна ў 450 мільярдаў даляраў. Урад скардзіцца на значную долю бартэру ў разьліках паміж суб'ектамі гаспадараньня. Супраць бартэра ходзяць у крыжовы паход гады тры ці чатыры, аднак відавочнага прагрэсу няма. Доля неграшовых формаў разьлікаў – звыш 40%.

Сытуацыя з выплатай заробкаў стала сёлета сур'ёзнай праблемай. 29 мільярдаў рублёў – гэта прыстойная сума, і няма ніякай гарантыі таго, што гэтую запазычанасьць цалкам зьліквідуюць. Калі прадпрыемствы працуюць кепска, то адкуль браць грошы? Вядома, што ўлады дзеля хуткага скасаваньня запазычанасьці прымушаюць кіраўнікоў прадпрыемстваў выплочваць заробкі, нават калі зрабіць гэта своечасова абсалютна немагчыма. Пад прэсынгам зьверху заробкі выплочваюцца, але гэта зьядае апошнія абаротныя сродкі прадпрыемства. Тое залазіць у новыя пазыкі, са стабільна працуючага робіцца нізкарэнтабэльным, зь нізкарэнтабэльнага ператвараецца ў стратнае і г. д. Усё ў выніку замыкаецца ў ганебнае кола беларускай эканамічнай мадэлі.

Становішча, пагадзіцеся, змрочнае, нават фатальнае. Колькі месяцаў таму Саўмін, якому тады ўскосна пагражалі новымі адстаўкамі, прыняў шэраг пастановаў, якія павінны былі паспрыяць фінансаваму аздараўленьню беларускіх прадпрыемстваў. Прапаноўвалася рэструктурызаваць запазычанасьці асобных суб'ектаў гаспадараньня, дазволіць ім пэўны час прадаваць неліквідную прадукцыю без узгадненьня коштаў зь дзяржавай і інш. Як выконваюцца гэтыя пастановы, аднаму ўраду вядома. Зрэшты, цяпер не да такіх дробязяў. Цяпер важна сабраць ураджай у 6 мільёнаў тон. Калі гэта атрымаецца, бацька дакладна даруе сваім міністрам усе грахі й пра эканамічныя праблемы гэтага году згадае хіба толькі пасьля «Дажынак». ■

УРАДЖАЙ-2002

## У чаканьні прэзыдэнта

ТАЦЬЦЯНА ПАПОВА

**На традыцыйнай сэлектарнай нарадзе Аляксандар Лукашэнка даручыў міністру інфармацыі Падгайнаму *«привести в чувство»* апазыцыйную прэсу, што *«постоянно юродствует по поводу уборочной кампании»*. На думку прэзыдэнта, *«люди, которые сегодня с утра до ночи борются за урожай, обеспечивая нас хлебом»*, павінны стаць асноўнымі героямі газэтных артыкулаў.**

Каб забясьпечыць больш *«широкое и объективное освещение хода уборочных работ»*, карэспандэнтка «Згоды» сьледам за прэзыдэнтам выправілася на перадавую бітвы за ўраджай. 1-га жніўня з палёў Менскае вобласьці – у адпаведнасьці з дырэктывай прэзыдэнта – павінен быў быць прыбраны апошні каласок. Аднак сам былы дырэктар саўгаса «Гарадзец» мусіць разумець: такі загад выканаць амаль немагчыма.

Прынамсі аб гэтым сьведчыць становішча ў саўгасе «Заслаўскі», што ў Менскім раёне. За два тыдні, што камбайны хадзілі па палёх гэтае гаспадаркі, было прыбрана толькі 40 адсоткаў ад усяе плошчы пасеваў. Калі ваша карэспандэнтка наведвала саўгас, да вызначанага Лукашэнкам *deadline*'у заставалася толькі чатыры дні.

Аграномы ад улады кажуць, быццам у гэтым годзе хлеб надзвычайны. Галоўны аграном «Заслаўскага», наадварот, сцьвярджае, што сёлетні ўраджай ня ёсьць нечым надзвычайным. У саўгасе спакойна зьбіраюць сабе па 26 цэнтнэраў зь гектару й кажуць, што гэта нармальны для іх вынік. І ня страшна, што ўраджайнасьць меншая, чым агулам у краіне.

Хаця патрабаваньне сабраць ураджай цалкам слушнае (з такім сухім надвор'ем зерне сапраўды неўзабаве пачне асыпацца), рэсурсаў для выкананьня загаду ня так ужо й шмат. У гаспадарцы дзевяць камбайнаў. Дзясяты быў на падыходзе, калі вашая карэспандэнтка гутарыла з дырэктарам саўгаса.

*Працяг на стар. 3* ➲

ПРОФСОЮЗЫ

## Летнее неудобство

ОЛЕГ ПЕТРОВ

**Александр Лукашенко не единственный, кому поперек горла стали профсоюзы. В Англии с профсоюзниками пытается сладить Тони Блэр.**

Признаться, никто не знал, чем закончится решение профсоюза УНИСОН провести 16 июля отраслевую забастовку. Накануне по английским каналам показали маленький ролик с пресс-конференции профсоюзных боссов, как-то между делом сказали: *«Будет забастовка»*. После этого телевизионщики долго рассуждали про трансфер нападающего «Лидса» Лео Фердинанда в «Манчестер Юнайтед». Еще один фактор безразличия к классовой борьбе – безобразное поведение в шоу «Большой брат» (английский вариант «За стеклом») одной из участниц, некой Джеды. Она, по внешним формам похожая на персонажей кустодиевских полотен, без пуританских комплексов обнажилась прямо перед камерами, чтобы с утра оккупировать своими фотографиями страницы газетных таблоидов.

Журналисты, словно сговорившись, игнорировали грядущую стачку. Вероятно, на Флит-стрит считали, что Тэтчер, подавив шахтеров в 1984-м, под корень разгромила профсоюзы. Микроскопические секты троцкистов в расчет не принимались. Конечно, журналисты не могли знать, что в самой правящей партии лейбористов царит неверие в идеалы проводимого Блэром курса. В противовес премьеру часть лейбористских заднескамеечников предлагает вернуться на позиции традиционной социал-демократии. Конечно, журналистам было невдомек, что в аппарате тред-юнионов давно заготовлен список требований к правительству, где основным пунктом стоит свертывание программы приватизации. Ждали лишь удобного случая.

И вот такой случай подвернулся. Накануне, 15 июля, министр экономики Гордон Браун предложил проект финансирования работников публичных служб. К ним относятся мусорщики, медсестры, учителя и т. п. Жонглируя экономическими выкладками, Браун предложил в перспективе закрывать все неблагополучные школы и госпитали. В качестве компенсации пострадавшим он предложил выделить 61 миллион фунтов.

В то время, когда Браун представлял публике свой конгениальный план, на торгах лондонской биржи индекс *FTSE* рухнул на 229,5 пункта. Умные головы в Уайтхолле тут же подсчитали, что английская казна за один час лишилась 41 миллиона фунтов. Это значит, что все расчеты Брауна, построенные на перспективе ежегодного 2,5-процентного роста ВВП, не выполнимы. Как пить дать, деньги будут изыскивать путем приватизации публичных услуг, что означает новую волну увольнений.

*Продолжение на стр. 5* ➲

## АНЕКДОТ-С

Лектор в колхозе говорит, что продовольственная безопасность уже на горизонте. Ему – вопрос:

– А что такое горизонт?

– Это воображаемая линия, в которой небо сходится с землей и которая удаляется от нас, когда мы пытаемся к ней приблизиться.

***

– Можно ли обеспечить продовольственный суверенитет?

– Обеспечить-то можно, но выжить при нем вряд ли.

## НАВІНЫ

**Працаўладкаванне.** Былы прэм'ер-міністр Беларусі Уладзімір Ярмошын узначаліў прадстаўніцтва расійскага *ОАО «Мобильные ТелеСистемы»*. Нагадаем, што ён быў зняты з пасады старшыні Савета міністраў *«у сувязі з пераводам на іншую працу»*, але новага прызначэння на дзяржаўную службу так і не атрымаў. Як мяркуюць, цяпер ён будзе лабіраваць інтарэсы *МТС*, якое валодае 49 адсоткамі акцый другога апаратара сотавай сувязі стандарта GSM у Беларусі – СООО «МТС».

**Страйк.** У апошні дзень ліпеня адбыўся агульнарэспубліканскі страйк прыватных прадпрымальнікаў. У ім узялі ўдзел каля 150 тысяч індывідуальных прадпрымальнікаў па ўсёй краіне. У Мінску не працавалі рынкі, кірмашы і большасць выстаў. Асноўнае патрабаванне страйкоўцаў – адмена абавязковых касавых апаратаў, а таксама недапушчэнне ўвядзення зменаў у дэкрэт № 12 ад 17 мая 2001 года. Кіраўнік прафсаюза прадпрымальнікаў Валерый Леванеўскі ацаніў папярэджальны страйк *«на пяць балаў»*.

**Ініцыятыва.** 30 ліпеня адбылося паседжанне прадстаўнікоў грамадскасці і творчай інтэлігенцыі для стварэння грамадскай ініцыятывы «Няміга-1570». У ім узялі ўдзел мастак Аляксей Марачкін, намеснік старшыні Мінскай гарадской рады Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Уладзімір Дзянісаў, архітэктар Вольга Вечар, аспірант Беларускага дзяржаўнага універсітэта Уладзімер Рубінчык, прэзідэнт Сусветнай асацыяцыі беларускіх габрэяў са штаб-кватэрай у ЗША Якаў Гутман. Удзельнікі сустрэчы ўзгаднілі тэкст адкрытага ліста ў абарону гістарычнага цэнтра Мінску і пачалі збор подпісаў пад ім.

**Заробак.** Прафкам наваполацкага завода «Вымяральнік» звярнуўся ў рэспубліканскі працоўны арбітраж з заявай, выкліканай несвоечасовай выплатай заробкаў на прадпрыемстве. Паводле звестак Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай (ФПБ), да гэтага часу частка працаўнікоў завода не атрымала заробку за красавік, зусім не выплацілі заробку за травень і чэрвень. З прычыны сталых затрымак выплатаў цягам 2001–2002 гадоў увесну на «Вымяральніку» адбываліся масавыя хваляванні: працаўнікі пагражалі перакрыць рух па галоўнай вуліцы горада. У выніку прафкам сабраў канферэнцыю працоўнага калектыву, на якой вылучыў патрабаванні да наймальніка і распачаў калектыўныя працоўныя спрэчкі.

**Прызначэнне.** Аляксандр Лукашэнка прызначыў Людмілу Пастаялка міністрам аховы здароўя. З кастрычніка 2001 года Л. Пастаялка займала пасаду першага намесніка міністра аховы здароўя. Месца міністра было вакантным з 29 красавіка 2002 года, калі Лукашэнка адправіў у адстаўку Уладзіслава Астапенку падчас справаздачы ўраду аб выніках працы ў першым квартале. Фармальная падстава – невыкананне ягонага распараджэння аб скасаванні дзяржаўнымі медычнымі ўстановамі дамоваў арэнды з камерцыйнымі медычнымі арганізацыямі.

**Кіёскі.** Больш за палову (56%) апытаных сацыёлагамі мінчукоў не ўхваляюць рашэння Мінгарвыканкама прыбраць з вуліцаў сталіцы камерцыйныя кіёскі. Прытым 34% адназначна не ўхваляюць рашэння гарвыканкама, а 22% – *«хутчэй не ўхваляюць, чым ухваляюць»*. З 500 апытаных мінчукоў у веку ад 18 гадоў рашэнне гарвыканкама ўхваляюць толькі 16% рэспандэнтаў.

**Справа.** 29 ліпеня ў судзе Ленінскага раёна Мінску пачаўся разгляд грамадзянскага іску дзвюх суддзяў з Жодзіна – Аліны Клус і Ларысы Фраленка – да газеты «Народная воля» і аднаго з ейных аўтараў. Жанчыны патрабуюць аспрэчыць факты, пададзеныя ў артыкуле «Бяспраўе», і кампенсаваць маральную шкоду – кожнай па 2,5 мільёны рублёў з газеты ды па 1 мільёну рублёў з аўтара артыкула юрыста Уладзіміра Іванова. Суддзя Людміла Грачова, якая разглядае грамадзянскую справу, адхіліла хадайніцтва аб зняцці арышту з разліковага рахунку «Народнай волі». Істцоў абурылі абнародаваныя ў газеце факты парушэння заканадаўства, службовых злоўжыванняў, карупцыі, дапушчаныя падчас разгляду іску адной з жыхарак Жодзіна. А. Клус і Л. Фраленка заявілі, што выкладзеныя факты не адпавядаюць рэчаіснасці. Адказнікі настойваюць на адваротным. Рэдактар газеты Іосіф Сярэдзіч у ходзе суда спрабаваў прапанаваць міравое пагадненне, паколькі мноства фактаў, выяўленых падчас першага паседжання суда, патрабуюць дадатковага расследавання. Аднак істцы адмовіліся пайсці на міравую. Разгляд грамадзянскага іску прыпынены са згоды бакоў.

**Адстаўка.** Загадам генеральнага пракурора Беларусі ад займанай пасады вызвалены намеснік пракурора Віцебскай вобласці Валеры Жыгаленка. Падставай для гэтага паслужылі матэрыялы службовай праверкі, праведзенай рэспубліканскай пракуратурай. У чэрвені 2001 года, калі Жыгаленка выконваў абавязкі пракурора Віцебскай вобласці, ён апратэставаў крымінальную справу асуджанага А. Баранава, мужа сваёй пляменніцы, не маючы на гэта законных падставаў. Выстаўлены пратэст Валерый Жыгаленка затым падтрымаў у прэзідыуме абласнога суда. У выніку Баранаву была значна зніжана мера пакарання.

**Арышт.** 15 сутак адміністратыўнага арышта – такі прысуд атрымаў вядомы праваабаронца і журналіст Валеры Шчукін у Бераставіцкім раённым судзе. Шчукін меўся асвятляць развіццё падзеяў вакол першага ў Беларусі храму Аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Валер'ю Шчукіну было адмоўлена ў карыстанні паслугамі адваката.

**Кадэты.** Першая ў Магілёўскай вобласці кадэцкая школа-інтэрнат адкрыецца ў новым навучальным годзе на базе Магілёўскага педагагічнага каледжу. Такое рашэнне прыняло ўпраўленне адукацыі аблвыканкама. Раней школу планавалі размясціць у вёсцы Барсукі Шклоўскага раёна. Цяпер у будынку новай навучальнай установы вядуцца рэстаўрацыйныя працы, закупляецца неабходнае абсталяванне. У школе-інтэрнаце будуць жыць і навучацца каля 100 сірот, дзяцей з праблемных, няпоўных і малазабяспечаных сем'яў. Пасля заканчэння кадэцкай школы яны змогуць атрымаць вышэйшую ваенную адукацыю.

## ХИТ-ПАРАД ГЛУПОСТИ



*«Некоторые хозяйства еще не приступили к уборке второго белорусского хлеба – льна»*

**(«Наши новости», ОНТ, 28.07.02)**



*«Вот Польша вступила в НАТО и тут же получила кризис перепроизводства»*

**(Е. Новиков, «Па сутнасці», БТ, 27.07.02)**



*«Читатель должен получать информацию без адреналина»*

**(П. Якубович, «Рэспубліка», 31.07.02)**

## АКЦЫІ

# Севярынец: адзін за ўсіх

АЛЕСЯ ГОРДЗІНА

**10 сутак арышту — такое пакаранне атрымаў лідэр Маладога фронту Павел Севярынец за несанкцыянаваную акцыю на 12-я ўгодкі прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі.**

Гэтым разам моладзь выказвала падтрымку незалежным СМІ. З раніцы 27 ліпеня маладафронтаўцы правялі ў штаб-кватэры БНФ адмысловую віктарыну, прысвечаную апазіцыйным выданням, пераможцы якой з задавальненнем атрымалі падпіску на газеты «Наша ніва» і *«День»*, а таксама кнігі «Верш на свабоду», што выдала радыё «Свабода». А 12-й некалькі дзесяткаў маладых людзей, апранутых ў белыя і чырвоныя футболкі, прыйшлі на Кастрычніцкую плошчу Мінска і сталі ў «жывы ланцуг». Яны трымалі асобнікі незалежных газет і балонікі з намаляваным вусатым тварам, на якіх было напісана: *«Я знішчаю незалежную прэсу»*. Там жа, на пляцы, быў наладжаны збор подпісаў у Гродзенскі абласны суд з патрабаваннем адмяніць карны прысуд асуджаным журналістам «Пагоні» Міколе Маркевічу і Паўлу Мажэйку. Удзельнікі ланцуга таксама патрабавалі спыніць крымінальны пераслед рэдактара газеты «Рабочы» Віктара Івашкевіча і разблакаваць грашовыя рахункі «Народнай волі». Скончылася акцыя воклічамі «Жыве Беларусь!» і лопаннем вусатых балонікаў.

Падзяліўшыся на тры групы, маладафронтаўцы панеслі петыцыі з агучанымі на пляцы патрабаваннямі ў рэзідэнцыю Лукашэнкі, Канстытуцыйны і Вышэйшы суды, Дом друку і Генпракуратуру РБ. Па выхадзе з апошняй міліцыянты і схапілі Севярынца, які прасядзеў у Акрэсцінскім спецпрыёмніку-размеркавальніку ўсе выходныя. Была спроба захапіць ля Дома друку яшчэ аднаго маладафронтаўца, Зміцера Дашкевіча, але дзякуючы паплечнікам, якія не разгубіліся, хлопца ўдалося вырваць з рук міліцыянтаў і адстаяць.

Панядзелак для Севярынца стаў «судным днём». Як і трэба было чакаць, суддзя Цэнтральнага раённага суда Наталля Вайцяховіч без ваганняў пакарала кіраўніка МФ 10 суткамі за арганізацыю несанкцыянаванай акцыі. Павел паспеў пракаментаваць журналістам такое рашэнне як *«звычайнае»*, а артыкул 167 Адміністрацыйнага кодэкса як *«улюбёны»*, бо судзілі Севярынца па ім безліч разоў. Павел таксама паведаміў, што губляць за кратамі час не збіраецца, а будзе дапісваць кнігу пра *«пакаленне Маладога фронту»*. Час прэзентацыі аўтар прызначыў на 6 верасня.

Такім чынам, лідэр МФ адзін пацярпеў за ўсіх незалежнікаў.



Астатняя апазіцыя адзначыла 27 ліпеня даволі своеасабліва – футбольнымі дасягненнямі. Менавіта на гэты дзень быў прызначаны традыцыйны турнір памяці Генадзя Карпенкі – «Кубак свабоды». Ён прайшоў на стадыёне ў парку Чалюскінцаў. Падчас адкрыцця спаборніцтваў кіраўнік АГП Анатоль Лябедзька паведаміў прысутным, што турнір прысвячаецца таксама і гадавіне прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце. У апантанай гульні апазіцыя засведчыла, чаго вартая. Прынамсі, у спорце. 8 камандаў прадстаўлялі *«цвет»* змагароў з рэжымам: АГП, БНФ, КХП, БСДП, МФ, «Зубр», Маладзевы хрысціянскі сацыяльны саюз (МХСС), а таксама «нячэсных» журналістаў.

Трэба сказаць, гульня не расчаравала. Усе прагнозы футбольных заўзятараў паляцелі дагары нагамі. Кубак свабоды атрымала Кансерватыўна-хрысціянская партыя. Такі вынік прадказаць магла хіба што бабулька Ванга. І ўжо не важна, што канкурэнты потым наракалі, маўляў, кахэпісты набралі сабе легіянераў з МАЗа. Пераможцаў, як вядома, не судзяць і ў партбілет не заглядваюць. Гуляць за каманду той ці іншай партыі не забаронена нікому, нават не з'яўляючыся яе сябрам.

Для цікаўных паведамім, што ў паўфіналах КХП перамагла каманду МХСС з лікам 4:1, а АГП у напружанай барацьбе выйграла ў БНФ 1:0. Такім чынам, у фінале сышліся КХП і АГП. Прыхільнікі Зянона Пазьняка бліскуча перамаглі з лікам 4:2.

Як адзначыў Анатоль Лябедзька, футбол *«у нечым аб'ядноўвае людзей, якія сёння знаходзяцца ў палітычнай апазіцыі. Магчыма не ўсё ў нас атрымліваецца ў палітыцы, але такія турніры садзейнічаюць паразуменню»*. Хочацца спадзявацца, што яднанне апазіцыі будзе заўважна не толькі на футбольным полі.

А Павел Севярынец выйдзе на волю 6 жніўня. ■

## НАЕЗД

# Пока не задушили «свабоду»

АЛЕКСАНДР КАВАЛЬСКИЙ

**Пока в среду президент на встрече с коллективом «Советской Белоруссии» говорил, что свободы слова у нас должно быть больше, судебные исполнители описывали имущество в редакции *«Нашай свабоды»*. На пятницу, 2 августа, назначено первое судебное заседание по иску Анатолия Тозика к газете и ее журналисту Михаилу Подоляку. Не исключено, что сейчас, когда читаются эти строки, *«Нашу свабоду»* уже закрыли.**

К таким пессимистическим предположениям подталкивают конкретные факты. У главного редактора *«Нашай свабоды»* Павла Жука уже накоплен достаточный опыт по части прихлопнутых государством медиа-проектов. Сначала закрыли его газету *«Свабода»*, лишили телеканала ММ4, а через несколько лет по иску тогда еще главы Совбеза Виктора Шеймана за два судебных заседания (!) была закрыта и газета *«Навіны»*.

Нынешний сценарий как две капли воды похож именно на тот случай. Для этого достаточно посмотреть на таблицу. Только вот суммы иска за три года возросли нешуточно. Если Шейман оценивал свою честь и достоинство в что-то около 50-ти тысяч *USD*, то Тозик требует 200 миллионов рублей от редакции и 15 миллионов от Михаила Подоляка, автора крамольной статьи – всего примерно 120 тысяч *USD*.

В чем же суть предъявленного иска? 16 июля этого года в *«НС»* была опубликована статья Михаила Подоляка «Конфиденциально». В ней рассказывается о ведомственном конфликте между Генпрокуратурой (В. Шейман) и Комитетом государственного контроля (А. Тозик). Автор ссылается на аналитический доклад «Многопрофильное исследование политической и социально-экономической конъюнктуры в Белоруссии. Рекомендации к выработке единой государственной линии», подготовленный российскими спецслужбами, МИДом и другими структурами, который, по словам М. Подоляка, как минимум лег на стол главы кремлевской администрации А. Волошина.

Некоторые цитаты из доклада и выводы журналиста А. Тозик счел порочащими его честь, достоинство и деловую репутацию. В исковом заявлении глава КГК даже написал: *«Все эти сведения причиняют мне и моей семье нравственные страдания и огромный моральный вред»*.

Ответчики по иску А. Тозика имеют свое мнение, насчет реальных причин зачистки информационного пространства. М. Подоляк заявляет, что доклад, объемом в 256 страниц, содержит компромат, собранный оперативным путем российскими спецслужбами, на 34-х высших должностных лиц Беларуси – практически на все ближайшее окружение президента, включая региональную элиту. Выдержки из доклада *«НС»* собиралась публиковать с октября этого года. Теперь в эти планы вмешивается суд.

*«Закрытие газеты не решает проблему. Доклад с конкретными фактами никуда не исчезает»*, – говорит М. Подоляк. Даже если не будет *«НС»*, эти материалы, по мнению журналиста, могут появиться в других газетах, например, в российских, с которыми нашему правосудию так легко справиться не удастся. Подействует ли этот довод на судью, мы обязательно напишем в следующих номерах. ■

| 1999. В.Шейман против «Навін» | 2002 г. А. Тозик против «Нашай свабоды» |
|---|---|
| 14 сентября, во вторник, в газете опубликована статья «Кто в теремочке живет» | 16 июля, во вторник, в газете опубликована статья «Конфиденциально» |
| 16 сентября, в четверг, выступая перед «силовиками», А. Лукашенко заявил: «Совсем недавно добрались до Шеймана – такой-сякой, там дворцы построил!.. До каких пор это будет продолжаться? Я предупреждаю и Пашкевича, и Мясниковича, и все правительство – если такие газеты в судебном порядке не будут закрыты в ближайшее время – пеняйте сами на себя» | 18 июля, в четверг, принимая А. Тозика и В. Шеймана, А. Лукашенко «высказал озабоченность участившимися случаями использования недостоверной информации для дискредитации в СМИ высших должностных лиц и членов правительства». А. Лукашенко отметил необходимость привлечения к ответу тех людей, которые, «нарушая действующее законодательство, намеренно распространяет искаженные факты и сознательно нагнетают обстановку в обществе» |
| В тот же день В. Щейман подал в суд Московского р-на г. Минска заявление о защите чести и достоинства и потребовал компенсации морального вреда – 15 миллиардов рублей (50 тысяч USD) | 26 июля А. Тозик подал в суд Московского р-на г. Минска заявление о защите чести и достоинства и потребовал компенсации морального вреда – 215 миллионов рублей (120 тысяч USD) |
| Дело принял к рассмотрению судья А. Савич | Дело принял к рассмотрению судья А. Савич |
| 17 сентября описано имущество редакции | 31 июля описано имущество редакции |

ПО ПОВОДУ

# АГРАРНЫЙ СУВЕРЕНИТЕТ

АЛЕКСАНДР СДВИЖКОВ

**В президентской Беларуси разворачивается летняя кампания ежегодной войны за урожай. Но теперь закрома белорусской Родины наряду с сельхозпродукцией пополняются идеологическим продуктом внешнеполитической направленности.**

Белорусский президент не только объявил чрезвычайное положение в сельском хозяйстве страны. Всем и каждому своему подданному он высочайше указал, что от спешной и успешной уборки зерновых и корнеплодов зависят суверенитет и независимость государства. Президентское слово было незамедлительно подкреплено управленческим делом. Если раньше Александр Лукашенко ограничивался селекторными разносами, то теперь он лично занялся челночным администрированием.

В течение недели, с 22 по 30 июля включительно, во всех областях страны высматривали в небе президентский вертолет. Выборочно, в неурочный день и час президент Лукашенко совершал налеты на колхозы и совхозы. За ним даже не всегда поспевали казенные белорусские телевизионщики, не говоря уже о репортерах информационных агентств.

С высоты вертолетного полета глава белорусского государства тщательно ревизовал количество единиц комбайнов, тракторов, автомобилей и прочей уборочной парафернали, выведенной в поле. Горе было тем районным начальникам, где, согласно президентской рекогносцировке, наблюдался недостаток сельхозтехники на местности. Или же находились прочие недоработки в обеспечении всебелорусской уборочной страды.

По всей Беларуси вертикальные чиновники с трепетом ждали вертолетной ревизии и готовились. Скажем, в Шкловском районе начальство с перепугу обеспечило механизаторов горячими блюдами местного ресторана. Поскольку организовать в пожарном порядке другой способ питания тружеников полей было весьма затруднительно.

Ради победы над урожаем и жаркой погодой Александр Лукашенко рискнул даже собственным пошатнувшимся рейтингом. Потому как пропагандистский эффект его общения с сельскими жителями был минимален, если не контрпродуктивен. Во-первых, не стоило ломиться в открытую дверь — деревня и так поддерживает своего президента. Во-вторых, не до политики колхозному народу в горячую летнюю пору. То ли дело осенью, тогда можно и о государственных делах потолковать.



Зато для президента Лукашенко целую июльскую неделю не нашлось более насущного государственного занятия, чем администрировать сбор зерновых и зернобобовых. Объяснить этот феномен не слишком сложно. Больше всего Лукашенко хотелось показать и доказать, что под его президентским водительством страна может прокормить себя без массированных поставок продовольствия извне.

Как известно, большая часть иностранных продовольственных товаров на белорусских прилавках имеет российское происхождение. Именно в борьбе с союзным продовольственным импортом президент Лукашенко собирается отстаивать белорусскую независимость.

Складывается впечатление, что это и есть белорусский ответ на интеграционные инициативы российского союзника. Мотайте на президентский ус! Лукашенковской Беларуси не требуется ни вхождение в путинскую Россию, ни интеграция с ней по образцу Евросоюза. Все тут идет своим путем, если своим умом удается убирать хлеб с полей.

Неисповедимы пути белорусско-российской интеграции. Бориса Ельцина и тамошних красно-коричневых интеграторов Александр Лукашенко пугал тем, что уйдет на Запад. А вот Владимира Путина он решил пронять аграрным суверенитетом.

Трудно сказать, удалась или не удалась столь выдающаяся демонстрация лукашенковской суверенности. Точно так же пока рано говорить о продовольственной изоляции РБ от РФ. Но все может быть. Особенно, если летний День независимости перенести на осенние Дожинки. ■

ВЫСШЕЕ ОБРАЗОВАНИЕ

# Прием, учет и контроль

АЛЕКСАНДР КАВАЛЬСКИЙ

**Минувший уик-энд стал первым с начала июля, который члены приемной комиссии БГУ провели не на работе. Там вступительные экзамены завершились, и 24 июля ректор подписал указ о зачислении студентов. Осталась только бумажная работа. В большинстве других вузов страны экзамены также проходили весьма нервно.**

Этот год стал особенным даже на фоне того своеобразия, которое творилось в ходе вступительных экзаменов последних лет. Кроме общественных наблюдательных комиссий (это когда школьные учителя, ветераны и бэпэсээмовцы, сидя на экзамене, от скуки разгадывают кроссворды), добавилось несколько интересных нововведений.

Во-первых, был введен раздельный конкурс для абитуриентов из деревень и городов. Фактически все бюджетные места были поделены на две равных части: деревня и город. Горожан в Беларуси около 70 процентов, в возрастной группе 16-17-ти лет даже больше, но, руководствуясь государственными понятиями о социальной справедливости и равных возможностях на получение высшего образования, именно городские граждане были лишены равноправия. Учитывая, что раздельно проходил конкурс и у целевиков (в своем большинстве также выходцы из деревни), сельчане получили льготы намного большие, чем в США выходцы из черных гетто.

Исключение составил только флагман белорусского высшего образования — Белгосуниверситет (он не подчиняется Министерству образования). Там раздельного конкурса не было. Зато выпускники сельских школ получали дополнительно три балла (при десятибалльной системе оценок и в среднем трех экзаменах это составляло около 10 процентов форы). Поэтому удельная доля поступивших среди абитуриентов-сельчан и абитуриентов-горожан была примерно равной.

Второе важное нововведение — создание резервных экзаменационных комиссий. В полной мере они себя смогли показать в том же БГУ. Еще в конце минувшего года, когда, несмотря на опалу, Александру Козулину удалось усидеть в ректорском кресле, пессимисты прогнозировали, что это ненадолго. Начнутся вступительные экзамены — будет и повод. Косвенно их догадки подтвердились. Первые пять дней глава Госконтроля Анатолий Тозик, можно сказать, приезжал в БГУ как на основное место работы, лично заменяя университетские комиссии резервными. Основным же куратором БГУ был заместитель госсекретаря Совбеза Станислав Князев. Ситуация немного разрядилась после личной беседы А. Козулина с А. Лукашенко 12 июля. Потом вообще началась уборочная кампания, которая оттянула внимание армии контролеров на себя, и экзаменаторы выдохнули с облегчением.

Эффект от функционирования хорошо эшелонированной системы контроля за ходом вступительных экзаменов был, прямо скажем, никудышный. За весь период задержаны только пятеро взяткополучателей. Из преподавателей на мздоимстве залетели директор Смиловичского сельхозтехникума, заведующий кафедрой анатомии и физиологии человека Брестского госуниверситета, председатель приемной комиссии одного из факультетов Европейского гуманитарного университета да декан заочного факультета Гомельского технического университета. Арестовали еще одного гомельчанина, который обещал помощь при поступлении в злосчастный гомельский мединститут, но был ли он посредником какого-либо преподавателя или обыкновенным аферистом, пока неясно.

Только наивные люди могут предположить, что по блату в этом году поступило меньше народу, чем в предыдущие годы. На все препоны государства оперативно были найдены противоядия. Зашифровали работы — так ведь за четыре часа, которые отводятся на письменный ответ, можно сто раз запомнить почерк нужного абитуриента. Всем раздали одинаковые ручки с одинаковыми чернилами — так ведь в конце работы можно дописать фразу-пароль, которая не будет выделяться из контекста (что называется, смотрите фильмы про разведчиков).

Казалось бы, давно пора переходить на западную систему тестирования выпускников школ, и по результатам тестов принимать их без экзаменов в университеты, чтобы уничтожить почву для коррупции. Не тут-то было. В этом году также провалилось и централизованное тестирование, которое в рамках эксперимента проводилось в некоторых белорусских школах. За день до испытания у одной из школьниц был обнаружен сам тест. Разгоревшийся скандал привел к отставке чиновника, ответственного за эксперимент. БГУ это позволило не признать результаты централизованного тестирования, а для тех, кто его прошел, устроить свое испытание. В итоге — большинство выпускников не подтвердило своих знаний.

В общем, создается впечатление, что за что бы ни взялись наши чиновники — все завалят. И причина этого вовсе не в том, что они такие безрукие и безголовые. Когда дело касается их личных интересов, они способны на нестандартное мышление и поразительно трудоспособны. Просто наши чиновники функционируют в рамках системы, в которой выживание зависит не столько от качественного исполнения своих обязанностей, сколько от умения имитировать бурную деятельность в ходе многочисленных кампаний (кампанейщина — основной метод государственного управления в Беларуси). Все остальное время лучше не высовываться. Инициатива у нас — наказуема. ■




УРАДЖАЙ–2002

# У чаканьні прэзыдэнта

*Заканчэньне. Пачатак на стар. 1*

Ёсць новыя машыны з кандыцыянэрамі, не абсалютнай, але гукаізаляцыяй, так што нават музыку можна слухаць цягам працы. Аднак збольшага тэхніка з адзінаццацёхгадовым стажам. Гэта, безумоўна, ня самыя кепскія фонды. Ёсьць калгасы, дзе машыны працуюць па некалькі дзесяцігодзяў. Аднак дырэктар саўгасу лічыць, што новенькія камбайны ягонай гаспадаркі не зашкодзілі б. І ён пагадзіўся б выдаткаваць грошы на набыцьцё менавіта тэхнікі, калі б было што выдаткоўваць.

Дырэктар гаспадаркі ўпэўнены, што саўгасы ды калгасы ні ў якім выпадку ліквідаваць нельга. Дзяржаўная падтрымка, на яго думку, — гэта тое, без чаго сялянам цяпер ня выжыць. Крэдыты й дзяржзаказы, паліва па ільготных коштах улетку — вось што можа даць дзяржава. Малако ўдвая таньнейшае за мінэральную ваду, тэхніка, якую можна купіць, толькі зацягнуўшы паяскі ўсім саўгасам, немагчымасьць мець вялікія кавалкі ўласнае зямлі — за гэта таксама варта дзякаваць дзяржаве.

Што да людзей, дык яны асабліва на жыцьцё ня скардзяцца, але й пахваліцца ня маюць чым. Кажуць, што ў часе ўборкі да іх ставяцца з павагаю, два разы на дзень прывозяць гарачыя стравы, даюць па пляшцы мінэральнае вады кожнаму працаўніку. Хаця такая асьцярожнасьць у словах, верагодна, тлумачыцца прысутнасьцю побач дырэктара саўгасу, які час ад часу шыкае на тых, у каго асабліва разьвязваюцца языкі.

Найбольшыя пакуты прыносіць сухі закон, усталяваны ў саўгасе. У сельскіх крамах няма ані гарэлкі, ані «чарнілаў». Калі дырэктар саўгасу абвясьціў сваім арлянятам, што прывёз ім журналіста, яны са смуткам у голасе заўважылі: *«Лепш бы він́ца»*. Каб він́ца не было за што купіць, заробкі вырашылі не выплочваць да тае пары, пакуль ня будзе сабраная хаця б палова хлеба. Аб гэтым кажуць самі змагары за ўраджай. Дырэктар абвяргае скаргі, сьцьвярджаючы, што заробак за ліпень будзе аддадзены ўжо да 10 жніўня.

У працаўнікоў-вяскоўцаў амаль не бывае выходных дзён. Летам адпачынак наагул не прадугледжаны, узімку на асабістыя справы сялянам вылучаюць па адным дні на тыдзень. Летам адпачываць і не хочацца, бо гэта адзіны час, калі можна зарабіць якія-ніякія грошы. За кожную ўборку ўраджаю мэханізатарам і камбайнэрам налічваюць блізу паўмільёна зайчыкаў. Хлебаробы кажуць, што хапае акурат, каб заплаціць за камунальныя паслугі й справіць якую абноўку. Астатнія грошы ідуць на харчаваньне. Узімку з заробкамі горш, бо й працы няма. Праўда, у дадатак да грошай кожны працаўнік саўгасу мае права на 600 бясплатных кілаграмаў зерня, якое ідзе на спажыў хатнім жывёлам, і яшчэ на 800 кілаграмаў зерня па сабекошце. Таму сяляне, што працуюць у саўгасе, могуць трымаць па некалькі сьвінак. І карову, калі ёсьць жаданьне здаваць дзяржаве малако. За кожныя сто літраў гаспадыні вылучаюць невялікі надзел сенажаці.

«Заслаўскі» спэцыялізуецца на зерні ды мяса-малочнай прадукцыі. Раней саўгасны статак быў дужа вялікі. У саўгасе было шэсьць фермаў. Цяпер засталося толькі дзьве. Пэнсыянэрка-памочніца загадчыка фермы тлумачыць гэта вельмі афіцыйна: *«Зьменшылася пагалоўе»*. Пагалоўе, канешне, можна было б падтрымліваць, калі б ў вёсцы знайшліся жадаючыя працаваць са статкам. Аднак ня кожны пагодзіцца пільнаваць кароў за 25 тысяч у месяц. У вёсцы Хмелеўка, што ў якім кіляметры ад разбуранае фермы, толькі адна жанчына мае спрычыненасьць да саўгаса. Астатнія насельнікі або гандлюють на «Ждановічах», або працуюць у Заслаўі.

Каб каровы зусім не засталіся без дагляду, кіраўніцтва саўгасу прыцягвае да працы асуджаных да папраўчых работ на карысьць дзяржавы — так званай «хіміі». Пастухі са стажам, праўда, жаляцца, што гэтыя малакасосы нічога ня ўмеюць ды й не жадаюць рабіць. От раней, кажуць, былі «хімікі» дык «хімікі». Хто за тое, што мех бульбы скраў, хто за тое, што калгасную тэхніку папсаваў, адпрацоўвалі. А цяпер збольшага гарадзкіх дасылаюць. Валютчыкаў ды махляроў. А яны бачылі кароў толькі па тэлевізару, таму баяцца іх як чорта. Тым ня менш пастух шкадуе сваіх памочнікаў. Ім таксама мусяць прывозіць абед. Але робіцца гэта ня так рэгулярна, як у выпадку з камбайнэрамі. Ды й порцыі не такія тлустыя. Таму, каб накарміць араву небаракаў, пастух прыносіць уласны чыгунок грэчневае кашы.

У той дзень саўгас рыхтаваўся да візыту прэзыдэнта. Аб тым, што такое мерапрыемства заплянавана, ведалі ўсе да апошняга тузіка. Да Лукашэнкі ў саўгасе стаўленьне неадназначнае. Перад візытам кіраўніка дзяржавы саўгасным камбайнэрам зладзілі лазьню. На просьбы прыдумаць пытаньне да прэзыдэнта камбайнэры толькі ўсьміхаюцца й аджартоўваюцца. Адзін зь іх заявіў, што ён бы абняў прэзыдэнта, пацалаваў бы яго й сказаў: *«Айцец ты наш родны!»*. Сваёй прамовы ён ня скончыў, бо дырэктар саўгасу шыкнуў на яго дужа строга.

Дырэктар урачыста рапартуе аб гатоўнасьці выконваць загад прэзыдэнта, аднак у размовах з калегамі называе яго ня йначай, як *«папа»*. Пастух, пасьля працяглых скаргаў на аплату іхняе працы, нечакана знаходзіць вырашэньне сваіх праблем: *«Хоць ты ў Лукашэнкі пяць тысяч пазыч!»*. Бабулька-пэнсыянэрка, што раней рабіла ў саўгасе, упэўненая, што каго б кіраваць дзяржавай не паставілі, ніхто *«вароты пірагамі не заткне»*. Яе непакоіць ня столькі ўласнае жыцьцё, колькі будучыня ўнучкі. Яна абураецца ня столькі сваёй мізэрнай (51 тысяча *BYR*) пэнсыяй, колькі тым, што ў ВНУ цяпер за навучаньне патрабуюць немалыя грошы. Зрэшты, вучыцца ўнучкі не абавязкова. Яна сама спадзяецца, што ёй пашчасьціць, і яна знойдзе сабе добрага мужа. Ня важна, кульгавага ці сьляпога, старога ці глухога. Хіба ў гэтым шчасьце? Галоўнае, каб з машынай і кватэрай. ■

